ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 27(5209)
Аўторак, 6 сакавіка 2001 года

Кошт у розніцу — 49 руб.

На мой погляд

## Пошук новага: рух убок ці наперад?

### Што спрыяе дасягненню лепшай якасці педагагічнай працы

ПАЧУЎ на адным з семінараў думку, што ў школах сярод настаўнікаў не хапае яшчэ культуры палемікі аб педагагічнай творчасці, а менавіта: метадычныя прыхільнасці (падчас даволі вузкія) перашкаджаюць прызнанню многаварыянтнасці шляхоў творчага педагагічнага пошуку, яго свабоды, таму арганізатарам адукацыі і прафсаюзным камітэтам трэба рашуча абараняць творча працуючых педагогаў ад кансерватызму, зайздрасці і нядобразычлівасці. Думка гэта была ўспрынята на "ўра". Хто ж стане спрачацца з тым, што творча працуючы настаўнік павінен быць арыенцірам для ўсіх калег? Няхай ён задае тон у кожным педагагічным калектыве, падахвочваючы іншых настаўнікаў да абнаўлення школы, бо толькі намаганнямі ўсяго настаўніцтва можна вырашыць праблемы, якія накапіліся ў адукацыі і выхаванні. А што да кансерватызму, зайздрасці і нядобразычлівасці, то іншы раз менавіта ў сваім калектыве "не прызнаюць" педагога з яркім творчым почыркам — хіба ж не бывае такога?.. Сапраўды, культуры палемікі аб педагагічнай творчасці яшчэ не хапае. Але ж ці азначае многаварыянтнасць шляхоў творчага педагагічнага пошуку чыста знешняе імкненне "ісці ў нагу з часам", выдаваць за істотныя творчыя набыткі выпадковае, суб'ектыўнае, можа і эфектнае, аднак неэфектыўнае?..

Праблема ў тым, на мой погляд, што ўкладваецца ў сэнс свабоды педагагічнай творчасці, на што гэтая свабода накіравана, ці грунтуецца яна на валоданні шырокім спектрам разнастайных метадычных прыёмаў і веданні гістарычных каранёў асноўных педагагічных праблем.

Гэтым, я лічу, і вызначаецца гатоўнасць да свабоды творчага пошуку.

Перабіраючы ў памяці найбольш цікавыя з наведаных урокаў высокакваліфікаваных настаўнікаў, успамінаю семінар-практыкум, на якім было паказана некалькі адкрытых урокаў новых форм.

— Выбіраючы тую ці іншую форму ўрока, — расказваў намеснік дырэктара школы, — нашы настаўнікі задумваюцца перш за ўсё над тым, як правесці заняткі з апорай на развіццё дзяцей, каб усе яны адчулі радасць вучобы. Менавіта для гэтага настаўнікі вядуць творчы пошук, эксперыментуюць.

Лепшым сярод лепшых удзельнікі семінара-практыкума вызначылі ўрок рускай мовы. Настаўніца па-майстэрску паказала, як здзіўляюча гарманічна можна даць трывалыя веды (у чым пераканала праца вучняў на занятках), захапіць сінтаксісам і адначасова пагутарыць з дзецьмі аб выбары прафесіі. Пры абмеркаванні ўрока калегі адзначалі высокі прафесіяналізм настаўніцы, веданне ёю псіхалогіі вучняў, актыўнае супрацоўніцтва з імі.

Слухаючы пахвалу ў свой адрас, настаўніца засмяялася:

— Працавала многа гадоў, па магчымасці паглыбляла сваю кваліфікацыю, але не ўяўляла, што ў адзін цудоўны дзень мяне назавуць наватарам! Не, калегі, наватарства — гэта стварэнне новай сістэмы навучання, я ж проста знайшла той метадычны алгарытм, з дапамогай якога імкнуся навучыць не толькі тых дзяцей, якія хочуць вучыцца.

Галоўным жа вынікам сваёй шматгадовай працы настаўніца назвала тое, што яна заўсёды падахвочвае вучняў — і моцных, і сярэдніх, і слабых — да дыялогу, да мыслення.

— "Давайце вучыцца, каб ведаць і мысліць", — так я кажу дзецям, — расказвала яна калегам, — і паслядоўна дамагаюся, каб гэта маё педагагічнае крэда садзейнічала дасягненню найбольшай эфектыўнасці ў навучанні і выхаванні. А наколькі гэта крэда новае, — усміхнулася настаўніца, — мяркуйце самі.

"Усмешка мудрага чалавека", — падумаў я. Хаця на семінары-практыкуме вялася размова пра разнастайныя формы і метады правядзення ўрокаў, парадназ пампезнасці настаўнікі не дэманстравалі — і мэту такую, як было бачна па ўсім, не ставілі. Пры ўсім тым, што паказалі і ўрок-бенефіс, і ўрок-субяседаванне, і ўрок-канцэрт, і ўрок-КВН. Мне запомнілася выказванне настаўніцы рускай мовы:

— Віды ўрокаў — гэта толькі форма, а зместам нават самай экстравагантнай методыкі з'яўляецца слова, тэкст. Як валодае мовай настаўнік, якія ўрыўкі і з якіх твораў бярэ для дыктантаў, якія ісціны даводзіць да вучняў — вось што цэментуе ўрок. Тая ці іншая форма заняткаў павінна дапамагаць як мага лепш вывучыць тую ці іншую тэму. Гадоў праз дзесяць формы ўрокаў будуць, напэўна, не такія, як сёння, але мэта ўрокаў застанецца ранейшай — трывалыя веды і развіццё дзяцей.

Так, мэта школьнага навучання і выхавання застанецца ранейшай (г.зн. цяперашняй) і праз пяцьдзесят гадоў. Змяняцца хіба што толькі некаторыя акцэнты.

Але ж ці не страціцца ў пошуках новых форм змест?

ТАКОЕ пытанне ўзнікае, калі чую сентэнцыі, што толькі пошук новага, неардынарнага здольны забяспечыць высокую эфектыўнасць усяго навучальна-выхаваўчага працэсу, што па-ранейшаму працаваць нельга, што трэба пастаянна шукаць, эксперыментаваць. Давайце ўдакладнім: новага, неардынарнага — проста дзеля пошуку новага ці новага — добра забытага старога, даўным даўно прыдуманага і праверанага ў педагагічнай працы ў іншых гістарычных умовах эфектыўным вырашэннем адвечных педагагічных праблем? Працаваць па-ранейшаму нельга? Па-ранейшаму, добра, эфектыўна ці па-ранейшаму дрэнна? Пастаянна шукаць, эксперыментаваць — дзеля неадольнай прагі пошуку невядома чаго. пошуку дзеля бачнасці бурнай творчай дзейнасці ці пошуку і эксперыменту, які грунтуецца на трывалым фундаменце глыбокіх педагагічных ведаў, веданні сістэмастваральных педагагічных паняццяў, гістарычных каранёў асноўных педагагічных праблем, ясным светапоглядзе і рознабаковай адукаванасці?..

Калі не будзем разважаць над гэтым, то ці ж дасягнем у пошуку новых форм і метадаў істотнага рэальнага паляпшэння зместу навучання?

Калі не будзем разважаць над гэтым, то ці ж не трансфармуецца пакрысе генерыраванне ідэй у адукацыі і выхаванні ў іх "пераж оўванне" — аж да аскоміны?

Што дае веру, што новыя ідэі праклюнуцца і прарастуць на школьнай ніве, дык гэта штодзённыя стараннi настаўнікаў-руплiўцаў, якія і ў сённяшніх складаных сацыяльна-эканамічных умовах не страцілі энтузіязму і творчага натхнення, прывучаючы дзяцей да напружанай разумовай працы на ўроках.

Сярэдняй агульнаадукацыйнай школе Беларусі на такіх самаадданых працаўнікоў, бадай што, пашчасціла. Да адных з вопытам прыйшлі вядомасць і прызнанне ва ўсёй краіне, да другіх — у сваім рэгіёне, да трэціх — пакуль што толькі ў сваім школьным калектыве ці толькі сярод вучняў. Але для большасці як тытулаваных, так і неўшанаваных званнямі і ўзнагародамі настаўнікаў прызнанне іх творчага пошуку не з'яўляецца самамэтай. Узважваючы ўсе плюсы і (магчыма нябачныя для староннягa вока) мінусы ў сваёй рабоце, яны накіроўваюць свае творчыя намаганні не на тое, каб толькі не адстаць ад таго, што сёння на слыху, а на тое, каб вызначыць для сябе асабіста такія метады і формы навучання, якія маглі б зрабіць вучэбную працу дзіцяці найбольш эфектыўнай, выяўлялі і развівалі яго патэнцыяльныя магчымасці.

Зрабіць шлях да пазнання не толькі цікавым для вучняў, але і пасільным, эфектыўным — так, бадай, можна фармуляваць тую галоўную задачу, якую паставілі перад сабой высокакваліфікаваныя настаўнікі, якія не сляпа пераймаюць чужыя, няхай і вельмі хвалёныя на сённяшні дзень, творчыя знаходкі, а на аснове трывалага фундамента педагагічнай тэорыі і практыкі наладжваюць навучальна-выхаваўчы працэс такім чынам, каб ён адпавядаў магчымасцям вучня на канкрэтны сённяшні момант і канкрэтнай дзіцячай аўдыторыі.

Ці ж не ў гэтым галоўная мэта настаўніцкай творчасці?

...У руках настаўніцы пачатковых класаў Нязнайка. Ён пастаянна ўсё блытае, не ўмее гаварыць (яго словы гучаць з магнітафона). А вось у клас ўлятае Мяцеліца. Узмахвае рукавом — і наўкола "рассыпаюцца" гукі: галосныя і зычныя, цвёрдыя і мяккія, глухія і звонкія, а дзеці дапамагаюць Мяцеліцы іх "збіраць".

Пасля ўрока, калі праходзіць яго абмеркаванне, настаўніца тлумачыць, што створаная на занятках казачная сітуацыя дапамагла дасягнуць галоўнага — падтрымліваць цікавасць і ўвагу малышоў. Відавочна, што настаўніца вельмі добрасумленная, любіць дзяцей, не шкадуе сіл, каб вучні вучыліся паспяхова. Вось колькі маляўнічых наглядных дапаможнікаў зроблена яе рукамі! Аднак, гледзячы на гэтыя самаробныя дапаможнікі, я думаю: "Колькі часу яна патраціла, каб зрабіць тое, чаго не хапае ў базісных магазінах! Гэты б час ды патраціць на ўдасканаленне методыкі выкладання, скіраванай на развіццё дзіцячага розуму і іх творчых здольнасцей!"

А мая суседка па парце асцярожна, далікатна, каб не пакрыўдзіць сваю руплівую калегу, гаворыць пра абмеркаванні ўрока, што казачныя героі на ўроку — гэта не развіццёвы фактар, а, на яе погляд, адцягваючы ўвагу, як маскарад. І рэзюміруе, звяртаючыся да калег: "Дык жа ці не ўчарашні дзень усе нашы творчыя пошукі з выкарыстаннем лялек і розных дыдактычных гульняў?" Ёй запярэчылі: "Дык што, вы лічыце, што калі няма на ўроку навінак, то ўрок неэфектыўны?"

Дыскусія, якая намячалася, не адбылася — дырэктар школы пашкадаваў "падсудную" настаўніцу, у якой ажно заружавеліся ад хвалявання шчокі, і перавёў размову ў рэчышча агульнай размовы пра школьныя турботы.

РОЗНЫЯ меркаванні — рэч натуральная для людзей, якія хочуць зверыць шляхі творчага педагагічнага пошуку. Галоўнае, думаецца мне, каб гэты пошук усямерна стымуляваўся, каб ён быў не рухам убок, а рухам наперад у дасягненні лепшай якасці педагагічнай працы.

Я мяркую, гэта пад сілу кожнаму настаўніку, які разумее мэту настаўніцкай творчасці. Разумее і крочыць да яе.

**Алег КУЛІЦКІ.**

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Каб мелі магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю на беларускай мове

**Ніна МІКУЛІЧ, педагог, выхавальнік групы прадоўжанага дня гімназіі № 4 Мінска**

— Ужо дзесяць год наша нацыянальная гімназія навучае і выхоўвае дзяцей на роднай мове. У нас у гімназіі, бадай, самая вялікая (у параўнанні з іншымі школамі) суполка сяброў Таварыства беларускай мовы. Акрамя настаўнікаў у яе складзе 300 гімназістаў.

Апошнім часам у навучанні дзяцей на роднай мове ўзнік шэраг праблем. Так, калі пачатковая школа цалкам беларускамоўная, то ў сярэднім звяне навучання, там, дзе вучні пачынаюць вучыцца ў розных настаўнікаў, не ўсе педагогі, на жаль, выкладаюць свой прадмет на беларускай мове. Існуе цякучасць кадраў, што таксама не лепшым чынам уплывае на якасць навучання і выхавання нашых вучняў.

Яшчэ адна праблема — дагэтуль няма беларускамоўнага падручніка па мастацкай культуры для старэйшых класаў. Вельмі патрэбны і беларуска-англійскі слоўнік, няма падручніка па граматыцы англійскай мовы. Настаўнікам прыходзіцца самім перакладаць матэрыял на беларускую мову.

Але, бадай, самае балючае асабіста для мяне пытанне — гэта сённяшні стан навучання беларускай мове нашых дзяцей, увогуле стаўленне да роднай мовы ўсяго нашага грамадства. Вельмі важна, каб тое, што робіцца ў беларускіх школах, прадоўжылася ў вышэйшых навучальных установах, каб нашы выпускнікі мелі магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю на роднай мове.

На з'ездзе я б звярнулася да ўсіх настаўнікаў і кіраўнікоў сістэмы адукацыі, каб яны падтрымалі ініцыятыву ТБМ імя Ф.Скарыны і дабіваліся адкрыцця ў нас першага нацыянальнага універсітэта.

Падрыхтавала да друку **Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**



Навіны

### Адкрыецца музей адукацыі

*У Мінскім палацы дзяцей і моладзі ў хуткім часе адкрыецца гарадскі музей адукацыі. Тут будуць прадстаўлены кнігі, фотаздымкі, архіўныя дакументы.*

Супрацоўнікі будучага музея нават здолелі адшукаць "Дзённік піянераў першых пасляваенных гадоў". Ім актыўна дапамагаюць выхаванцы палаца. У прыватнасці, члены гуртка архітэктурнага дызайну робяць макеты цэркваў і манастыроў, якія калісьці ўпрыгожвалі Мінск. Менавіта пры іх і былі адкрыты ў XVI стагоддзі першыя школы.

### Паэткі вітаюць вясну

*Подых вясны натхніў супрацоўнікаў Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі наладзіць цікавую "сакавіцкую сустрэчу", прымеркаваную да жаночага дня — 8 Сакавіка.*

Напярэдадні свята 6 сакавіка а 16-й гадзіне ў Гасцёўню Галубка завітаюць Ала Канапелька, Галіна Каржанеўская, Аліна Летастаева і іншыя, якія на працягу сустрэчы будуць чытаць слухачам свае вершы.

Лірычную атмасферу, якую створыць паэзія, гарманічна дапоўніць музыка. А музычныя творы выканае народны вакальны ансамбль Стаўбцоўскай школы мастацтваў "Берагіня".

### Журы ўзначаліць Ала Пугачова

*Вось ужо дзесяты год па ліку юбілейны Міжнародны песенны фестываль "Славянскі базар" у Віцебску адсвяткуецца 20 — 26 ліпеня выступленнямі знакамітых артыстаў эстрады і юных талентаў.*

Летась ў фестывалі прынялі ўдзел прадстаўнікі трыццаці краін, а сёлета павінны прыехаць спевакі з сарака дзяржаў. А ўзначаліць журы конкурсу маладых выканаўцаў песні вядомая спявачка расійскай эстрады Ала Пугачова.

### Выстава тыдня

*На мінулым тыдні ў Мінску праходзіла міжнародная выстава "Ахова здароўя Беларусі".*

Сваю прадукцыю на ёй прадставілі каля 200 прадпрыемстваў з двух дзесяткаў краін. Сярод экспанатаў былі лекі, аптэчнае, стаматалагічнае і самае разнастайнае лабараторнае і дыягнастычнае абсталяванне.

### Міжнародны семінар

*У Віцебску прайшоў міжнародны семінар па праграме Балтыйскага універсітэта, заснаванай шведскім універсітэтам г.Упсала для каардынацыі работы навучальных устаноў краін Заходняй і Усходняй Еўропы.*

Праграма разлічана на выкладчыкаў, студэнтаў і шырокую грамадскасць і прадугледжвае ўстойлівае развіццё рэгіёнаў на аснове навуковага кіравання прыроднымі рэсурсамі. У краінах Балтыйскага рэгіёна створана 13 нацыянальных цэнтраў. На Беларусі такі цэнтр існуе пры кафедры экалогіі Беларускай політэхнічнай акадэміі.

### Большасць курцоў — жанчыны

*Калі мужчын у нашай краіне, якія не ўяўляюць сваё жыццё без цыгарэты — 53,3 працэнта, то прадстаўніц прыгожай палавіны — 58,2 працэнта.*

Сярод непаўналетніх, як сведчаць даныя Камісіі па прадухіленні курэння, хоць адну цыгарэту ў месяц выкурваюць 43 працэнты беларускіх падлеткаў.

А прыкладна 16 працэнтаў тых людзей, хто яшчэ не дасягнуў 22 гадоў, штодзённа выкурваюць больш за палову пачка.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

Сацыяльны ракурс

## У мінулым годзе 310 мінчан добраахвотна развіталіся з жыццём

*Нядаўна ў прэс-цэнтры Мінгарвыканкама адбылася канферэнцыя на тэму "Стан псіхічнага здароўя жыхароў Мінска". У ёй прынялі ўдзел галоўны ўрач Мінскага псіханеўралагічнага дыспансера Мінска Ю.П.Сушчэня, галоўны псіхатэрапеўт Мінска А.І.Спарцаў і загадчыца арганізацыйна-метадычнага кабінета дзіцяча-падлеткавага псіханеўралагічнага дыспансера Таццяна Мікалаеўна Алыка.*

Па-першае, было адзначана, што ў апошнія гады змяніліся адносіны большасці людзей да псіхатэрапеўтычнай службы. Кабінеты псіхатэрапеўтычнай дапамогі адкрыты ў 16 паліклініках горада. Год назад на Мендзялеева, 4, адкрыты Цэнтр пагранічных станаў, у структуру якога ўваходзяць амбулаторная служба, дзённы стацыянар на 35 месцаў і 3 стацыянарныя (гарадскі псіханеўралагічны дыспансер, 6-я і 10-я клінічныя бальніцы). Дапамога па жаданню аказваецца ананімна. У той жа час карціну псіхічных захворванняў нельга назваць поўнай — многія пацыенты звяртаюцца ў недзяржаўныя фірмы ("Стэй", "Лодэ", служба доктара Сайкова).

Па-другое, структура псіхічнага здароўя сталіцы адрозніваецца ад правінцыйнай. На жаль, сталічныя жыхары часцей хварэюць на шызафрэнію, у той час як у вёсцы жыве шмат хворых з разумовай непаўнацэннасцю. Шмат сярод шызафрэнікаў людзей з вышэйшай адукацыяй, якія не змаглі сябе рэалізаваць у жыцці, страцілі работу. Большасць хворых — ад 20 да 30 гадоў.

Згодна даных апошніх гадоў, колькасць пацыентаў, якія стаяць на ўсіх відах уліку, застаецца стабільнай. Многія стаяць на так званым кансультатыўным уліку, калі хворы сам вырашае, ці трэба звяртацца за ўрачэбнай дапамогай. А бывае і так, што чалавеку дастаткова адной кансультацыі псіхатэрапеўта.

Застаецца актуальнай і праблема суіцыдаў. У Мінску ў 2000 г. добраахвотна развіталіся з жыццём 310 чалавек. Гэты паказчык ніжэй, чым у цэлым па рэспубліцы, але дастаткова высокі. У хуткім часе ўзнікне праблема псіхіятрычнай дапамогі пажылым людзям, бо колькасць іх у апошнія гады павялічваецца.

Што да дзяцей і падлеткаў, то, згодна даным дзіцяча-падлеткавага псіханеўралагічнага дыспансера, рост разумовай непаўнацэннасці не назіраецца, але расце колькасць дзяцей з пагранічнымі паталогіямі — неўрозамі страху, навязлівымі станамі, заіканнем, цікамі і г.д. Гэта следства сацыяльна-эканамічных і псіхалагічных фактараў.

Не апошнюю ролю ў гэтым адыгрывае і крызіс сям'і, страчаная вера ў былыя ідэалы, усе варыянты насілля ў сям'і і, на жаль, у школе. Дарэчы, урачы-псіхатэрапеўты вельмі асцярожна ставяцца да розных новаўвядзенняў у школьнай адукацыі.

У той жа час усе вышэйазначаныя хваробы паспяхова лечацца, калі своечасова звярнуцца да спецыялістаў. У дзіцяча-падлеткавым дыспансеры працуюць 38 урачоў, 24 псіхолагі. Размешчаны ён па адрасе: г.Мінск, вул.Кунцаўшчына, 22. Многія пацыенты паспяхова прайшлі курс лячэння і зняты з уліку. Хоць улік тут не цягне за сабой ніякіх адмоўных наступстваў для дзіцяці. І калі б дарослыя своечасова звярнулі ўвагу на адхіленні ў паводзінах свайго дзіцяці (або ўжо вучня), можна было б пазбегнуць многіх правапарушэнняў. Падлеткавыя правапарушэнні па сваёй сутнасці маюць імпульсіўны характар і не маюць пад сабой ніякага злога намеру.

Падлеткі маюць свой тэлефон даверу — 215-00-00. Але тэлефануюць яны не толькі таму, што не могуць знайсці адказ на глабальныя праблемы чалавецтва, а і таму, што проста хочуць з кім-небудзь паразмаўляць.

**Ала ШАЎЦОВА.**

## Паважаныя настаўнікі!

**Прыйшоў час падумаць пра падпіску на "Настаўніцкую газету" на другі квартал 2001 года.**
**На старонках сваёй газеты вы прачытаеце:**

- пра вопыт настаўнікаў і педагагічных калектываў, эфектыўнасць якога праверана практыкай;
- пра новыя адукацыйныя тэхналогіі;
- пра дзейнасць школ па пераўладкаванні навучальна-выхаваўчага працэсу ў адпаведнасці з патрабаваннямі рэформы.

**Вы можаце атрымаць кваліфікаваныя кансультацыі спецыялістаў па разнастайных пытаннях школьнага жыцця.**

**Ваша газета прадаставіць свае старонкі для дыскусій па вострых праблемах педагогікі, арганізацыі і змесце агульнаадукацыйнай, прафесійнай і вышэйшай адукацыі.**

Паспяшайцеся падпісацца на "Настаўніцкую газету", бо ў розн ічны продаж яна паступае ў абмежаванай колькасці экзэмпляраў.

Аформіць падпіску вы можаце са сродкаў, якія выдзяляюцца вам на набыццё метадычнай літаратуры.

Падпісны кошт на квартал для індывідуальных падпісчыкаў — 1650 рублёў, па ведамаснай падпісцы — 3555 рублёў.

*Ваша газета заўсёды з вамі!*

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс ______ індэкс выдання

**Настаўніцкая газета**
(назва выдання) | Колькасць камплектаў ______

На **2001** год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс ______ індэкс выдання

**Настаўніцкая газета**
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | руб.____ | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб.____ | |

На **2001** год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

